Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 20 (74) Нядзеля, 10-га Траўня 1925 г. м. Вільня. Год II.

# ГРАМАДЗКІ ГОЛАС

Выходзіць адзін раз у тыдзень. Цана нумару 15 грошай.

Падпісная цана на 1 месяц 80 гр.
" " 3 " 1 зл. 40 гр.
За граніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Wilno, ul. Niemiecka, 1 „Hotel Sokołowskiego" pokój № 26. Рэдакцыя адчыцена ад 10—2 гадз. Рэдактар прымае ад 11—1 гадз. удзень, апрача сьвятаў.

Цана абвестак на 1 стар. — 15 гр.
за радок пэтыту: у тэксьце — 10 гр.
на апош. стар. — 5 гр.



## Сьвядомасьць і арганізованасьць.

Быў час, калі ў нашым беларускім руху востра адчуваўся брак нацыянальнае сьвядомасьці ў шырокіх народных масах. Але гэты час мінуў і трэба думаць—назаўсёды. Адсутнасьці нацыянальнае сьвядомасьці ўжо ў народзе няма, толькі для выяўленьня яе ўва ўсёй сваёй моцы няма таксама патрэбных варункаў.

Сказваюцца яшчэ сярод народнае нашае інтэлігэнцыі чужыя культурныя ўплывы, а без патрэбнага ліку нацыянальна сьвядомае інтэлігэнцыі сьвядомасьць масаў ня можа быць выкарыстана дзеля ўласнае карысьці самога народу.

Кожны нацыянальны рух тады набірае рэальнае вагі і значэньня, калі разьвіваецца ён у арганізованых формах, калі мае тую ці іншую конструкцыю.

І наша нацыянальная слабасьць, над якою часамі можа й занадта любяць пасьмейвацца сьляпыя праціўнікі беларускага руху, будзе адчувацца датуль, пакуль будзе істнаваць інтэлігэнцкая гуртковшчына, пакуль народныя масы самі не ўвальюцца ў пэўныя арганізованыя формы.

Беларускі Пасольскі Клюб строіць свае парлямэнцкія выступленьні не на арганічным нацыянальна арганізованым жыцьці выбраўшых яго масаў, а на сьляпым пачуцьці соцыяльна-аграрнага радыкалізму нашых сялян, радыкалізму раздутага цераз нацыянальны антагонізм нашага краёвага жыцьця. Радыкалізм такі, дзякуючы марудна-му праводжаньню земельнае рэформы ці калекаму выгляду гэтае рэформы ў постаці якога-нібудзь вайсковага польскага асадніцтва ў мінулым, гаснуць ня мог, а хутчэй мог толькі яшчэ больш раздувацца.

Марудласьць у правядзеньні разумнае зямельнае рэформы з пункту гледжаньня дзяржаўных, а ня толькі нацыяналістычных, польскіх інтарэсаў, была можа аднэю з найбольшых памылак польскіх уладаў.

Аднак-жа нашыя масы народныя самі па сабе не пазбаўлены пачуцьця конструкцыйнасьці, пачуцьця сыстэмы ў сваім нацыянальным руху і заўсёды здольны перайсьці ад бясплоднага прыслухоўваньня да дэмагогічных лёзунгаў у бок творчага нацыянальнага позытывізму.

Уладам гэта дасюль не ўдалося зразумець, адсутнасьць рашучасьці ў задаваленьні жыцьцёва неабходных нашых нацыянальных інтарэсаў цягнецца далей.

Калі абсолютна законным спосабам, у парадку, які з гары устаноўлены законам, сялянства нашае дабіваецца свае роднае школы, дык скольхі-ж незразумелых у сэнсе праваадрадку непаразуменьняў, яно спатыкае ў зносінах са сваімі валасьнымі хаця-ж бы ўладамі! Гэтая важная для нас справа, як падгатоўка да будучага школьнага году патрэбнага ліку настаўнікаў заглохла недзе ў канцэлярыях, ня гледзячы на тое, што з кожным днём новы школьны год прыбліжаецца шпарчэй.

Нацыянальная сьвядомасьць і дапэўнай меры арганізованасьць масаў прывяла іх да злажэньня некаторага ліку школьных дэкляроцыяў і ў будучыні працэс гэты бязумоўна будзе даваць большыя рэзультаты па меры нашае арганізованасьці і—праз гэту арганізованасьць—законнага адстойваньня сваіх нацыянальных правоў, дзеля таго, што аднае голае сьвядомасьці гэтых правоў мала для іх рэалізацыі, патрэбна ў Рэспубліцы грамадзянская самадзейнасьць у кірунку дасягненьня пажаданае мэты.

І вось кожны беларус павінен раз назаўсёды запомніць, што нехта за яго будзе поўніць яго нацыянальны і грамадзянскі абавязак. А дзеля гэтага павінен мець адвагу ісьці ў тыя свае нацыянальныя арганізацыі, якія здольны пайсьці шляхам рэальных магчымасьцяў, а не шляхам гучных лёзунгаў. Партыйная, ці праўдзівей гуртковая, калатня нацыянальнае інтэлігэнцыі не павінна палохаць нікога і адпіхаць ад удзелу ў нацыянальным арганізованым жыцьці, як не павінны палохаць і прыкрыя часамі пастрахі з боку ніжэйшых прадстаўнікоў дзяржаўнае адміністрацыі па глухіх кутках.

Ніхто і нішто ня можа перашкодзіць істнаваньню, напрыклад, нацыянальных культурна-прасьветных беларускіх гурткоў у провінцыі, куды павінна шырокаю хваляю пайсьці беларускае кніжнае слова і прынясьці кожнаму тую веду, якую яно можа даць. Наш рух у культурна-прасьветным кірунку бязумоўна зьяўляецца магутным фактарам і ў нашым палітычным жыцьці. А ў гэтай форме мы можам заўсёды саўсім легальна арганізоўвацца ў рамках залегалізованых статутаў нацыянальна - культурных нашых арганізацыяў.

І калі сьвядомасьць нашае нацыянальнае самабытнасьці сьведчыць аб самым нашым істнаваньні, дык толькі арганізованасьць наша можа павясьці нас па шляху палепшаньня варункаў нашага істнаваньня, па шляху прызнаньня і задаваленьня нашых балючых патрэбаў тымі, хто мае магчымасьць гэтае зрабіць, але марудзіць.

## Палітычны агляд.

Выбары прэзыдэнта ў Нямеччыне, на якія была зьвернена ўвага ўсяго сьвету, закончыліся перамогай нацыянал-монархістых. З двох кандыдатаў, выстаўленых прыхільнікамі і праціўнікамі рэспублікі, Маркса і фэльдмаршала Гіндэнбурга, перамог апошні. За Маркса было пададзена 13.745.489 галасоў, а за Гіндэнбурга — 14.639.972, г. зн. на 900.000 галасоў болей.

Кандыдатура Гіндэнбурга была выстаўлена адразу пасьля першых выбараў, ня даўшых рэзультатаў. На выбарах 29 сакавіка галасавала толькі 70% агульнага ліку меўшых права голасу і было рознымі групамі выстаўлена 7 кандыдатаў, сярод якіх Гіндэнбурга зусім ня было. Найбольшы лік галасоў тады адтрымаў Ярэс (11 мільёнаў), другім па ліку адтрыманых галасоў быў соцыяль-дэмакрат Браун (8 міл.), далей Маркс (4 міл.), камуністы Тэльман (каля 2-х міл.), дэмакрат Гэльпах (1,600.000), баварскі нацыяналісты Гэльд (1 міл.). З рэзультатаў гэтых выбараў нацыяналістыя зрабілі вывад, што, калі толькі яны выставяць кандыдатам найбольш популярную асобу, якой у Нямеччыне зьяўляецца фэльдмаршал Гіндэнбург, дык удасца адтрымаць адносную большасьць галасоў і перамагчы, наперад ведаючы, што камуністыя не падтрымаюць рэспубліканскага блёку. Апрача таго толькі популярная асоба можа здабыць галасы і тых 30%, якія, дзякуючы сваёй пасыўнасьці, стрымаліся ў першым галасаваньні. Рахунак нацыяналістых, як відаць з рэзультатаў, аказаўся правільным. Дзеля гэтага Ярэс, разьлічаўшы толькі на $12^{1}/_{2}$ міл. галасоў, у той час як рэспубліканцы мелі больш як $13^{1}/_{2}$ міл. галасоў, адмовіўся ад свае кандыдатуры на карысьць Гіндэнбурга, а апошні згадзіўся выставіць сваю кандыдатуру. Рэспубліканцы адразу пабачылі ў ім паважнага праціўніка. Соц.-дэмакраты, каб толькі вырваць перамогу з рук монархістых, згадзіліся галасаваць за Маркса, прадстаўніка цэнтру. Але гэта ня ўстрымала нацыяналістых ад галасаваньня за Гіндэнбурга, ані навет пагрозы Францыі і Амэрыкі па адрэсе Нямеччыны, калі яна выбера прэзыдэнтам фэльдмаршала Гіндэнбурга, які лічыцца яўным монархістым і быў навет у сьпіску ваенных ліхадзеяў пад № 237 абвінавачаны ў незаконным спосабе вядзеньня вайны. Выставіўшы кандыдатуру Гіндэнбурга, бышага галоўнага камандзера нямецкай арміі, слаўнага пераможцы на ўсходнім фронце, ў Румыні і Італіі, якому пры яго жыцьці паставілі ў Бэрліне памятнік, нацыяналістыя здабылі больш як 2 міл. новых галасоў з тых 30%, якія не галасавалі ў часе першых выбараў. У выбарах 26 красавіка было пададзена 31 міл. галасоў, і у той час, як усе іншыя партыі засталіся пры ранейшым ліку галасоў, увесь прырост галасоў прыйшоўся на кандыдатуру Гіндэнбурга. Гэта былі, галоўным чынам, жанчыны і старыкі, на якіх зрабіла ўражаньне 78-ёх гадовая асоба кандыдата ў фэльдмаршальскім мундзеры.

І кандыдатура Гіндэнбурга і яго выбары прэзыдэнтам рэспублі-

# Працэс 72-х беларусаў і ліцьвіноў у Горадне.

Два тыдні, пачынаючы з 20 красавіка с. г. ў Горадзенскім Акружным Судзе ішоў разгляд справы 72-х беларусаў і ліцьвіноў, абвінавачаных у прыналежнасьці да партызанскае арганізацыі атамана Хмары, меўшага свой галоўны штаб у 1922 — 1923 г. г. у Мэрачы на літоўскай тэрыторыі.

Падсудныя абвінавачваюцца ў стварэньні беларускае партызанскае арганізацыі, меўшай мэтаю адарваньне ад Польшчы шляхам аружнага паўстаньня часьці яе тэрыторыі і стварэньне з яе незалежнае беларускае рэспублікі. На лаве абвінавачаных: Мікалай Адамення, Пав. і Уладысл. Анопікавы, Ігнась і Аляксандар Бэрнатовічы, І. Багатырэвіч, Ф. Багдан, Ф. Барчэк, Ул. Бортнікаў, Аляксандар і Антон Боско, Ул. Брыкач, А. Бучнеўскі, А. Ханевіч, М. Хацян, І. Хвешка, М. Цюнчук, К. Чыраз, Т. Дзежка, Е. Гайдзіс, Казімір і Сымон Чрыкавы, Міхал, Сьцяпан і Уладымер Язэпчыкі, Петра і Васіль Юрэчкі, А. Юрканіс, Л. Казюкевіч, І. Клімовіч, Арон Кадроўскі, Ст. Краўневіч, Я. Круш, Я. Куц. Аляксандар і Язэп Лінкевічы, Янка й Мацей Лукшыцы, М. Макарэвіч, С. Маркевіч, Я. Мілеўская, Я. Мішчук, Балеслаў, Дамінік і Казімір Мішкіны, К. Мішкініс, М. Моліс, Р. Пералайка, Л. Піленка, К. Русілевіч, Я. Сяргейчык, Язэп і Уладым. Семянякі, М. Сяргейчык, А. Станкевіч, Я. Суботнік, Я. Шанбура, Ст. Шакалей, Я. Шалешка, М. Шаставіцкі, Л. Швэд, К. Шыгаловіч, Д. Шарапкевіч, Ф. Туроніс, Е. Ішкевіч, Я. Валенчукевіч, Д. Відзбай, Я. Валансевіч, С. Жалеўскі, Р. Жук і І. Журун.

Выклікана 150 сьведкаў. Старшынствуе ў судзе прэзэс Новінскі, абвінавачвае падпракурор Мюлер. Бароніць 20 адвакатаў, з якіх 16 горадзенскіх і 4 прыезныя: гэнэрал Бабінскі і Гонківі з Варшавы, Тадэуш Врублеўскі і Стафан Міцкевіч з Вільні. Большасьць падсудных ужо прасядзела ў вастрозе каля 3-х гадоў. Пяць чалавек памёрла падчас бегу сьледзтва. Адзін звар'яцеў, якога справа выдзелена. У першы дзень суда ледзь хапіла часу на адчытаньне вялізнага акту абвінавачаньня. На другі дзень пачаўся дапрос абвінавачаных, часьць якіх адмаўляецца даваць паказаньні. Пасьля пярэрвы ўнесены ў судовую салю рэчавыя доказы. Адвакат Врублеўскі патрэбаваў сконстатаваньня факту адсутнасьці сярод рэчавых даказаў узрыўчых матар'ялаў.

На трэці дзень працэсу пасьля прысягі сьведкаў пачаўся дапрос іх. Сярод сьведкаў: камісар Марыян Макоўскі камэндант Слонімскага павету, дзе вяла дзейнасьць група партызанаў пад камандай атамана Шэршэня, затым вядомы з беластоцкага працэсу Адварды Ленкевіч, (які цераз пасрэдніцтва асуджанае ў Беластоку Веры Маслоўскай ўвайшоў сам у арганізацыю і выдаваў яе), далей кіраўнік сьледчае экспозітуры ў Горадне Пётра Бржэнчэк, Ліс і інш.

Прыгаварам суда абвінавачаны Казюкевіч за забойства асуджаны на 12 гадоў вастрогу, Бортнікаў—на 6 гадоў, Адаменя і Пералайка—на 4 гады. 47 абвінавачаных апраўданы. Рэшта засуджана на час ад $1^1/_2$ да 3 гадоў вастрогу, замяняючага папраўчы дом.

ў Мазыры, а пасьля і ў рэшце раёнаў Мазырскага вокругу.

### Папаўненьне бібліятэкі Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту.

Управай Бел. Дзярж. Унівэрсытэту набыта поўнасьцю бібліятэка вядомага расейскага акадэміка К. Грота, якая складаецца з кніг па беларусазнаўству на ўсіх славянскіх мовах. Набыта таксама ў аднаго ленінградзкага вучонага вялікая матэматычная бібліятэка. За грошы, асыгнованыя Цэнтральным Выканаўчым Камітэтам Беларусі, набыта каля 15.000 томаў па розных пытаньнях. Сярод купленых кніг ёсьць вельмі рэдкія выданьні.

### Ашчадныя касы.

На 1-е красавіка ў Радавай Беларусі налічвалася: адна галоўная ашчадная каса, 10 цэнтральных, 243 паштова-тэлеграфныя і 10 на чугунках. У працягу сакавіка месяца ўцягнена ў касы 788 новых укладчыкаў, галоўным чынам з Менску, Віцебску і Калінінскага вокругу. Павялічэньне укладаў у гатоўцы ў працягу сакавіка раўняецца 21 727 руб. Агулам на Беларусі налічваецца 12.048 укладчыкаў.

### Пазваляюць гандляваць гарэлкаю.

Народны Камісар Унутраных Справаў зьмяніў сваю ранейшую пастанову аб забароне прадаваць віно й гарэлачныя вырабы ў сельскіх мясцовасьцях прыватнымі асобамі. Прадаваць гарэлку можа быць забаронена як для прыватнага, так і для дзяржаўнага гандлю толькі пастановаю $^2/_3$ грамадзян кожнае вёскі або сяла з зацьверджаньнем гэтае пастановы валасным выканаўчым камітэтам.

# Тутэйшая хроніка.

**— Страшэннае здарэньне ў польскай гімназіі ім. Лелевэля.** 6-га гэтага траўня ў польскай гімназіі імя Лелевэля (Міцкевіча вул. № 38) разыгралася нячуваная ў гісторыі сярэдняй школы драма; у 8 клясе адбываўся 5 траўня выпускны экзамен па фізыцы. Вучань Лаўрыновіч атрымаў двойку. Адтрыманая гімназістым адна двойка не пазбаўляла яго магчымасьці адтрымаць матуру, калі-б ён далейшыя экзамены вытрымаў ня ніжэй, як на тройках. Назаўтра 6 траўня назначаны быў пісьменны экзамен па матэматыцы. Лаўрыновіч і некаторыя інныя гімназістыя спадзяваліся сьпісаць задачу ў першага вучня Васілеўскага. У пачатку экзамену дырэктар гімназіі Беганскі (выкладаўшы матэматыку ў гімназіі) папярэдзіў Васілеўскага, каб той не пазваляў сьпісваць у яго задачы, бо йначай, дык ён сам адтрымае двойку. Васілеўскі сказаў аб гэтым таварышом і ў першую чаргу Лаўрыновічу, які прасядзеў у 8 клясе другі год і ў выпадку адтрыманьня другое двойкі клапцу пагражала звальненьне з гімназіі. Перад пачаткам экзамену Лаўрыновіч быў вельмі неспакойны і таварышы супакойвалі яго. У клясу ўвайшла экзаменацыйная камісія і была дана задача. Цераз паўгадзіны вучань Лаўрыновіч устаў са свайго месца і стрэліў тры разы з браўнінга ў дырэктара Беганскага, раніўшы яго ў пальцы на руцэ і ў жывот, дзе куля прабіла толькі скуру. Стралеўшага Лаўрыновіча схапіў за плечы вучань Асмалоўскі. Тады Лаўрыновіч выняў з кішаня ручную гранату. Служыўшаму раней у войску вучню Вонч-Асмалоўскаму не ўдалося вырваць з рук Лаўрыновіча гатовую разарвацца гранату. Калі да Лаўрыновіча кінуўся вучань Загурскі, дык ён быў застрэлены Лаўрыновічам з браўнінга проста у лоб. Моцным узрывам гранаты Лаўрыновіч быў разарваны на кавалкі, настаўніку Янкоўскаму адарвала руку і цяжка раніла яго ў жывот, ад чаго ён і памёр. Узрывам гранаты забіты на месцы і вучань Дамanскі. У той самы час выляцеў з экзаменацыйнага пакою вучань Обромпальскі, кінуў у гімназіяльнай салі неразарваўшуюся ручную гранату і пачаў страляць з рэвальвэра. За Обромпальскім пабег экзаменатар Чайкевіч з мэтаю раззброіць яго. Убачыўшы гэта Обромпальскі стрэліў у сябе самога і ў хуткім часе памёр. У рэзультаце аказалася чатыры забітых і 11 цяжка і лёгка раненых чалавек. 7 траўня памёр ранены вучань 8 клясы Тачылоўскі. У цяжкім стане раненыя вучні Дубіцкі і Барысоўскі. Лаўрыновіч быў прэзэсам вучнёўскае „Bratniej Pomocy". Ён сын віднага вураднiка Дэлегатуры Ураду. Школьны доктар у кнізе аб стане здароўя вучняў у працягу раду гадоў аднатоўваў Лаўрыновіча і Обромпальскага як сільных нэўрастэнікаў. У самазабойцы Обромпальскага знойдзена яшчэ адна граната. На ходжаньні гранатаў думаюць, што яны былі ўтоены Лаўрыновічам і Обромпальскім падчас вучэньня іх вайсковасьці і абходжаньню з ручнымі гранатамі.

**— Пачынаючы з гэтага месяца Траўня газэта наша часова будзе выходзіць адзін раз у тыдзень.**

## Пісьмо у Рэдакцыю.

*Паважаны Пане Рэдактар!*

Не адмоўцеся зьмясьціць у Вашай паважанай газэце наступнае:

У некаторых газэтах, у апошні час пачалі зьяўляцца заметкі, нязгодныя з праўдай, як аб пэрсанальным складзе Рады, так і аб яе дзеяльнасьці.

З мэтай спыненьня раз назаўсёды усялякіх падобных пагаласак, мы ніжэй падпісаныя лічым патрэбным заявіць: 1) што ніякіх унутраных разьбежнасьцяў, ці прынцыповага, ці тактычнага характару, ў Радзе ня было; былі толькі пэрсанальныя непаразуменьні, ня маючыя нічога супольнага з ідэолёгіяй Рады. 2) З выхадам са складу Рады трох былых яе сяброў, атмосфэра Рады аканчальна ачысцілася ад даўнішніх „клюбных" уплываў. 3) Застаўшыяся сябры прадстаўляюць з сябе моцную, сконсолідованую ідэолёгічна групу. 4) „Праўдзівая" вестка „Беларускай Долі" аб выхадзе са складу сяброў Рады пісьменніка Ф. Аляхновіча, — як то звычайна здараецца у гэтай газэце, не адпавядае праўдзе.

У складзе Рады засталося пасьля выхаду трох сяброў, не два ці тры чалавекі, як аб гэтым пішуць, а 9 наступных асоб: 1) А. Паўлюкевіч — старшыня, 2) Ф. Аляхновіч—віцэ-старшыня, 3) А. Кабычкін — сэкратар і скарбнік, і сябры: 4) інжынер Сьвятаполк-Мірскі, 5) Дырэктар Бел. Клецкай Гімназіі А. Якімовіч, 6) Рэдактар „Грамадзкага Голасу" Я. Салавей, 7) Старшыня Нясьвіскага Сэкрэтарыяту Рады А. Пінкевіч, 8) Старшыня Сіняўскага Сэкрэтарыяту А. Крыцук і 9) Старшыня Баранавіцкага Сэкрэтарыяту Н. Кернажыцкі. Аднак-жа, маючы на ўвазе пастанову конфэрэнцыі ад 21 верасьня 1924 г. аб тым, што Рада зьяўляецца часовай і што толькі на маючым адбыцца зьезьдзе павінна быць выбрана сталая Рада, Часовая Рада знайшла, што сучасны момэнт зьяўляецца найбольш адпаведным дзеля скліканьня зьезду.

Адначасна на гэтым зьездзе Рада будзе мець магчымасьць прадэмонстраваць сваю жывую і моцную сувязь з беларускім грамадзянствам, якое і выбера сталае пазапарлямэнтарнае беларускае прадстаўніцтва, абапёртае на шырокім грамадзянскім грунце.

*А. Паўлюкевіч,*
*Ф. Аляхновіч,*
*А. Кабычкін,*
*А. Якімовіч,*
*А. Пінчук-Пінкевіч.*

## Юрыдычныя парады.

**Падпісчыку Б — чу.** *Пытаньне:* „20. V. 1915 г. пазычыў 315 руб. па вэксэлю на куплю зямлі. Зямлю даўжнік купіў і цяпер ёю карыстаецца. Даўгу цяпер аддаць ня хоча. Вэксэль напісаны срокам на ўсякае вастрэбаваньне з 10% гадавых. Колькі мне прысудзяць, калі перадам даўжніка ў суд?"

*Адказ:* Згодна з § 2. распараджэньня п. Прэзыдэнта Рэспублікі з дня 14-га траўня 1924 г. аб перарахаваньні прыватна-праўных абавязаньняў, (Dziennik Ustaw R. P. № 42 poz. 441 za r. 1924), Вам належыць: да 1 сьнежня 1924 г. даўгу са складанымі процэнтамі (ў рублёх—717,39) = 1628 зл. і ад 1-га сьнежня 1924 г. да 1 траўня 1925 г. = 1836 зл. Калі ў вэксэлі сказана толькі аб тым, што такі-то грошы пазычыў без паказаньня што пазычыў— можа быць застасованы п. 2 § 26 таго-ж распараджэньня, г. зн. вышэйшы абрахунак зроблены з 10% ўсей сумы. Трэба даказаць, што грошы пазычаны на куплю зямлі, зямля была куплена і даўжнік ёю карыстаецца і карыстаецца ўвесь час і дзеля гэтага прасіць прысудзіць усю суму поўнасьцю. Позву трэба падаць у Акружны Суд да 20-га траўня гэтага году, бо йначай зайдзе даўнасьць.

Рэдактар-Выдавец Язэп Салавей

Друкарня „Lux", вул. Жэлігоўскага, 1. Тэлеф. № 203.